Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1мес.—75 гр.

Год 2. | Вільня, 2 красавіка 1930 г. | №. 13

## Т. Б. Ш.

Так ужо склалася нашае грамадзкае жыцьцё, што блізу кожная наша культурная ўстанова аказваецца зьвязанай з тым ці іншым палітычным кірункам. І толькі лічаныя ўстановы астаюцца вольнымі ад гэтакіх выключных уплываў, гуртуючы людзей розных палітычных паглядаў, але аб'яднаных пачуцьцём неабходнасьці супольнае працы ў данай галіне. Да такіх культурных арганізацыяў належыць, прыкладам, Беларускае Навуковае Таварыства, якое мае зусім незалежныя ад палітычных пагляда ў сяброў яго навуковыя мэты. Але там, дзе йдзе аб актыўную працу на культурна-асьветнай ніве ў масах, — там справа стаіць горэй: там на кожным кроку сустракаемся якраз з тым або іншым відам „палітыкі".

Яно зусім ясна й натуральна, што ў культурнай працы адбіваецца і тая або іншая грамадзкая ідэолёгія. Гэтак Таварыства Беларускае Школы ад самага свайго заснаваньня адбівала й адбівае беларускую радыкальную ідэолёгію, — пад той час, як Інстытут Беларускае Гаспадаркі і Культуры выяўляе ідэолёгію, блізкую да хадэцыі і сельсаюзьнікаў. Гэтак ёсьць, прыкладам, і ў палякоў: Польска Мацеж Школьна ўся прапітана эндэцкім духам, а Таварыства Работніцкіх Унівэрсытэтаў адзначаецца зусім неўкрыванай сацыялістычнай ідэолёгіяй. Гэтае-ж бачым і ў другіх народаў.

Але ў беларускім жыцьці ёсьць тутака адна ненармальнасьць. Гэта—тое, што — з прычыны слабога разьвіцьця ў нас партыйнага жыцьця (асабліва-ж пасьля разгрому Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады) — розныя палітычныя групы і арганізацыі (яўныя і няяўныя) стараюцца выкарыстываць культурна-асьветныя арганізацыі не дзеля культурнае працы ў іх, не дзеля пашыраньня праз іх сваей ідэолёгіі (што зусім нармальна), а—дзеля партыйна-арганізацыйных мэтаў, гледзячы на культурныя арганізацыі, як на нейкі „эрзац" (замяшчэньне) партыйнае арганізацыі. І гэта адбіваецца нязвычайна блага на ходзе ўсяе нашае культурнае працы ў масах наагул.

Асабліва немагчымае палажэньне вытвараецца тады, калі культурную ўстанову ці арганізацыю выкарыстывае для сваіх вузка-партыйных мэтаў канспірацыйная палітычная арганізацыя. Апаноўваючы культурна-асьветныя ўстановы, гэткая арганізацыя і сама сябе выяўляе (бо тое, што робіцца ў легальнай установе культурна-асьветнага характару, ня можа доўга ўкрывацца ад вока палітычных уладаў!), дый тую легальную ўстанову правалуе, ці, як кажуць, „засыпывае" яе.

Нязвычайна сумны абраз прадстаўляе цяпер Таварыства Беларускае Школы, справаздачу аб дзеяльнасьці якога публікуе орган Беларускага Сялянска-Работніцкага Пасольскага Клюбу, што ўзяў Таварыства ў свой „пахт". У цэлых паветах разгромлены чуць-што ня ўсе гурткі і акружныя ўправы. Сябры стэрорызованы, запалоханы вобыскамі і арыштамі, у часе якіх, як чытаем у № 3 газэты „На варце", паліцыя ўсё шукае ці то выданьняў Пасольскага Клюбу, ці то агітацыйнае літаратуры Камуністычнае Партыі... Не ўваходзім на гэтым месцы ў разгляд пытаньня: ці слушныя гэтыя закіды гурткам ТБШ, ці не. Думаем, што ў большасьці выпадкаў яны зусім беспадстаўныя. Але ўсе падобныя абвінавачываньні ТБШ грунтуюцца фармальна на тым, што Пасольскі Клюб усімі сіламі стараецца прадставіць ТБШ, як свой падгалосак, і шмат дзе запраўды-ж выкарыстывае сходы і акружныя зьезды арганізацыяў ТБШ дзеля правядзеньня сваіх палітычных рэзалюцыяў, дзеля дыскрэдытаваньня ўсіх тых беларускіх культурных дзеячоў з радыкальнай ідэолёгіяй, якія не падпарадкаваліся ані Клюбу, ані — Камуністычнай Партыі,—і гэтак далей.

Калі ўвосені 1928 году група палітычна незалежных радыкалаў-культурнікаў, жадаючы абараніць Таварыства Беларускае Школы ад пагражаўшае яму тады ліквідацыі польскімі ўладамі, узяла—з агульнае згоды радыкальнага грамадзянства і паслоў—кіраўніцтва ТБШ ў свае рукі (Трэпка, Шнаркевіч, Крук) і старалася павясьці працу Таварыства незалежна ад апанаваўшых яго палітычных арганізацыяў,—дык апошнія разьвілі на вёсцы шалёную агітацыю проці гэтых дзеячоў. Вынікам гэтага было тое, што культурнікі мусілі кінуць сваю акцыю і аддаць Таварыства ў рукі „палітыкаў", якія іх вінавацілі ў бяздзеяльнасьці і „забіваньні" працы ТБШ. А вось мінае ўжо другі год поўнага панаваньне ў ТБШ гэных самых „палітыкаў", і што-ж за гэты час яны зрабілі? Справаздача, зьмешчаная ў № 3 часопісі Клюбу „На варце",—гэта-ж запраўдны акт абвінавачаньня проці цяперашніх кіраўнікоў ТБШ, якія дапамаглі варожа-настроенай у адносінах да беларусаў адміністрацыі — зьліквідаваць блізу ўсё тое, што ў працягу каля васьмёх гадоў было створана культурнікамі. І гэтая вялізарная масавая арганізацыя, якая згуртавала колькінаццаць тысяч сяброў дзеля культурна-асьветнае працы, з кожным днём занепадае сьвядома правакаваная Беларускім Сялянска-Работніцкім Клюбам.

Справаздача, зьмешчаная ў № 3 „На варце", гаворыць аб масавым адпаданьні ад ТБШ сяброў яго, запалоханых рэпрэсіямі, робленымі адміністрацыяй пад відам „барацьбы з выўротовай дзеяльнасьцяй" гурткоў. Вясковыя культурныя сілы проста складаюць аружжа і пакідаюць тую працу, якую і дагэтуль лічылі, і цяпер лічаць нязвычайна важнай і патрэбнай. Мы мусім тут сказаць, што гэтае рэагаваньне на вытваранае ў ТБШ палажэньне — зусім памылковае: не складаць рукі трэба, не адхіляцца ад ТБШ, а, наадварот, працаваць у ім трэба яшчэ больш энэргічна, даючы рашучы адпор усім спробам паноў паслоў і іхніх памочнікаў (або і „настаўнікаў"!) ператварыць гэтую магутную яшчэ нядаўна, адзіную беларускую масавую культурна-асьветную арганізацыю—ў падгалосак палітычнае партыі.

ТБШ, якое мае слаўнае ўжо ў нашым руху імя і слаўныя традыцыі, павінна адрадзіцца з сучаснага заняпаду, да якога давяло яго падпарадкаваньне Беларускаму Сялянска-Работніцкаму Пасольскаму Клюбу, ТБШ мусіць скінуць з сябе гэную пагібельную „апеку" палітыканаў, якія, ня маючы ні адпаведных здольнасьцяў, ні патрэбнае адвагі дзеля стварэньня сваей палітычнай арганізацыі, стараюцца ператварыць у такую арганізацыю Таварыства, створанае ня імі і не для іх, а самымі масамі — дзеля карыснае, неабходнае гэтым масам культурна-асьветнае працы.

Па гэтым шляху і павінны павясьці ТБШ здаровыя элемэнты яго, калі такія яшчэ захаваліся ў ім ад паліцэйскае, ці пасольскае „ліквідацыі".

## Мы—песьняры.

(Прысьв. Хв. Ільляшэвічу).

Ідзем мы ў сьвет і новай верай,
Як сонцам, чысьцім пуць.
А словы самі ў песьні сьмела
Вірацца і плывуць.

Прад намі муць нязнанай далі,
Над намі сінь вясны:
За намі йдуць шырокай хваляй
Вясковых стрэх сыны.

Мы — песьняры народнай гушчы,
І лёгак наш узьлёт.
У песьнях — шум лясоў і пушчы,
У песьнях — веснаход.

Мы — песьняры працоўнай эры,
І зоры шлях нам ткуць.
Ідзем у сьвет і новай верай,
Як сонцам, чысьцім пуць.

**М. Машара.**

„Лукішкі" 1929 г.

## Вёска гаворыць сама!

### Адказ Б. С. Р. П. Клюбу.

Па поваду выступленьня з адкрытым пісьмом у газ. „Наперад" п. н., „Проціў шкоднай барацьбы", у органе Б. С. Р. Р. Клюбу „На варце" № 1 за дзень 13 сакавіка замешчана досыць вялікая стацьця пад нязвычайна гучным загалоўкам: „Фашыстаўскае аблічча пад радыкальнай маскай"... І вось тые мэтады барацьбы з ідэйнымі праціўнікамі, аб якіх я пісаў раней, цяпер у поўнай меры дастасаваліся, і да мяне... Як кажуць: „не ўкраў, а стаў злодзеем". Такая прыкрасьць спаткала і мяне. Захацеў выявіць публічна свае думкі і перакананьні і адразу папаў у „платные луцкевічаўскія пісары".

Але лепш пачнем з самага пачатку! Перад усім Б. С. Р. П. Клюб вельмі мыліцца, лічачы мяне „платным луцкевічаўскім пісарам, падшываючымся пад шыльд чалавека з вёскі"... Бо-ж я, перадусім, толькі першы раз выступіў у беларускай прэсе з зусім шчырымі думкамі і імкненьнямі, ды я яшчэ занадта малады, не пасьпеў згубіць сваго сумленьня ў пагоні за грашыма і кар'ерай; другое, магу сьцвярдзіць дакумэнтальна сваю асабовасьць, як жыхара вёскі Душкаўцы, Гарадзіскай воласьці, Баранавіцкага павету, сяляніна ад плуга і касы, былага грамадаўца і сябры Драматычнай Сэкцыі Канішоўскага гуртка Т. Б. Ш. Так веле ўсяго! І тым болей дзіўным зьяўляецца гэткае вострае выступленьне проціў майго артыкулу Б. С. Р. П. Клюбу, і гэткае нязгоднае з праўдай, „пашыранае" тлумачэньне яго!

Напрыклад, Б. С. Р. П. Клюб абвінавачвае мяне, што сваім артыкулам я ўводжу ў заблуджэньне працоўныя масы, быццам „пішучы (?), што ў грамадзянстве Зах. Беларусі няма клясавай барацьбы" (!). І гэта зьяўляецца толькі сьвядомым перакручваньнем праўды! У сваім артыкуле я, наадварот, толькі заклікаў беларускую інтэлігенцыю да згоднай і супольнай барацьбы за сацыяльна-нацыянальные правы свайго народу. Бо якіх небудзь пазытыўных вынікаў такой барацьбы, якой яна ёсьць у сучасны мамэнт, апроч распыленьня і дэзорганізацыі, беларускія працоўныя масы ня бачаць!...

Далей, моцна лаючы грамадзян Луцкевіча і Астроўскага і бяручы ў чужаслоў мае словы „выдатных і заслужаных", аўтар стацьці з штучнай наіўчасьцьцю пытаецца: „каму?"

Паны паслы! Адыймаць ад людзей іх духовыя, ідэйныя заслугі нельга і ня ў вашых сілах! Заслугі Луцкевіча і іншых вы ня скрыеце, хаця-б і хацелі гэта зрабіць, бо яны былі вядомы беларускаму народу тады, калі ён яшчэ нічога ня чуў аб вас!

Ня буду разьбіраць дакладна ўсіх злосна непрызваітых нападкаў на гр. Луцкевіча і іншых ды паўтараць іх тут. Як відаць, прынцыпы агульна-людзкай этыкі не існуюць для п. п. паслоў! Ды таксама ня зьбіраюся я станавіцца ў абароне тых, на каго гэтак абураюцца паслы Б. С. Р. П. Клюбу! Маральная вартасьць людзей пазнаецца па іх учынках; і беларускі працоўны народ мае падставы вам, паны паслы, сказаць: „мы вас ня знаем", а калі вашы ўчынкі будуць нязгодны з яго воляй і імкненьнямі, дык скажа: „і знаць ня хочам!"

У канцы Б. С. Р. П. Клюб тлумачыць, да чаго зводзіцца ў цэлым уся праца газ. „Наперад" і, у часнасьці, майго артыкулу. Паводле гэ-

тага тлумачэньня, сваім артыкулам я хацеў „уталкаваць працоўным масам аб тым, што няма розьніцы між беднякамі і кулакамі, што ўсе нароўні ўцісканыя“, ды гэтым самым „усыпіць чыннасьць і баяўнічасьць працоўных масаў“ і „аддаўшы ў рукі фашызму, уцягнуць да антысавецкай барацьбы!“. Цікава, як можна было, дзякуючы „шырокім паглядам“ п. п. паслоў, зрабіць з маей нязначнай карэспандэнцыіі такія вывады!

Як, з лёгкай совесьцю, шчырыя імкненьні і жаданьні, скажу з пераканаўньнем, ня толькі мае, алі і ўсяе лепшае часткі беларускага народу, можна ператтлумачыць і падаць, як самыя варожыя і шкодныя для працоўных сялян і работнікаў!

У вузка партыйным засьляпленьні „трыбуны пралетарыяту“ скора пачнуць „змагацца“ з тымі, у імя інтарэсаў і ідэалаў каторых выступаюць яны! Хаця, хочацца верыць, што ня злая воля, а толькі незразуменьне і прадузятая варожасьць да кірунку, які выражаецца газ. „Наперад“, выклікалі такое вострае выступленьне Б. С.-Р. П. Клюбу проціў майго артыкулу!...

Між іншым, хочацца адказаць некалькі слоў нейкаму вялікаму „Змагару“ з в. Стаек, Слонімскага павету, які ў тым жа № 1, „На варце“ так сама добра дае „дыхту“ мне за „кракадылавы сьлёзы!“. Ня маючы ўласнай здольнасьці крытыкі, а пілнуючыся толькі прыказкі: „куды конь з копытом, туда й рак з клюшней“, гэты „Змагар“ „отделывает во всю“ гр. Луцкеріча і іншых! Трэба радавацца, што яшчэ адзін вялікі „Змагар“ зьявіўся між нас! Толькі — ці далёка заедзем мы з гэткімі „змагарамі“, гэта пытаньне!

20 сакавіка 1930 года. У. Т.

Вёска Душкаўцы, Гарадзіскай гм., Баранавіцкага пав.

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Урадавы крызіс і Сойм.

#### Няўдалая місія марш. Шыманскага.

Як і можна было спадзявацца, місія старшыні Шыманскага пасьпеху ня мела. Ані з боку соймавых партыяў, ані навет з боку тых палітычных колаў, да якіх належыць сам праф. Шыманскі, ня было ня толькі веры ў магчымасьць стварэньня ім ураду, але, здаецца, навет цалком паважнага да яе адношаньня.

Усе-ж соймавыя фракцыі і групы пайшлі шчыра насустрэчу ўсім высілкам праф. Шыманскага, які заявіў, што хоча зрабіць спробу міравога кампрамісу паміж соймавай апазыцыяй і „кіруючымі колямі ў Польшчы“.

#### Варункі апазыцыйнага Сойму.

Абяцуючы праф. Шыманскаму падтрыманьне, „цэнтралев“ з свайго боку падаў яму такія варункі:

1. Новы ўрад павінен точна выпаўняць канстытуцыю і законы.
2. Зьмена канстытуцыі павінна адбыцца законным шляхам.
3. Суд, адміністрацыя і армія павінны быць незалежныя ад уплываў усіх партыяў.
4. Самаўрады павінны быць захаваны істотна.
5. Адміністрацыйная самавола павінна быць спынена—з аддачай пад суд вінаватых у нарушэньні законаў і правоў грамадзян.
6. Усялякія субсыдыі з дзяржаўнага скарбу на прыхільныя да ўраду органы прэсы павінны быць спынены.

У канцы дэклярацыя „цэнтралеву“ трэбуе, каб урад зьвярнуў асаблівую ўвагу на страшэнны гаспадарчы крызіс у Польшчы, а таксама дадае, што міністры новага ўраду павінны мець запраўдную самастойнасьць і несьці адказнасьць, а ня быць толькі безадказнымі выканаўцамі волі военнага міністра марш. Пілсудскага.

#### Варункі марш. Пілсудскага.

Калі пасьля гэтага праф. Шыманскі зьвярнуўся да марш. Пілсудскага, той заявіў, што згодзіцца ўвайсьці ў склад ураду, але толькі тады, калі Сойм споўніць наступныя 4 яго варункі:

1. Паслы ня будуць умешывацца ў справы, датычачыя ўпраўленьня і асабовага складу ўраду.
2. Фракцыі Сойму ня будуць умешывацца ў тое, як будзе выконвацца ўрадам прыняты ўжо Соймам бюджэт.
3. З скарбовага закону будзе выключаны параграф 6 (які рэгулюе перарасходы, робленыя паасобнымі міністрамі проці каштарысаў іх міністэрстваў).
4. Сойм ня будзе зьбірацца ў працягу ня менш, як паўгоду...

#### Адказ соймавых групаў.

З гэтымі варункамі ў кішані праф. Шыманскі склікаў да сябе на нараду прадстаўнікоў усіх соймавых клюбаў, якім прачытаў варункі м. Пілсудскага і заявіў наступнае:

„Вось варункі марш. Пілсудскага, без якога ніякога ўраду ў Польшчы стварыць немагчыма. Згаджаюся цалкам з гэтымі варункамі, бо згаджаюся заўсёды з усім, што робіць марш. Пілсудскі. Дзейнасьць гэтага чалавека—такая надзвычайная, зато часта яе паасобныя ўчынкі можна зразумець толькі праз 30 гадоў“.

Але ўсе фракцыі Сойму, апрача клюбу „Б. Б.“, адкінулі гэтыя варункі, апроч пэршага, кажучы, што амаль ня ўсе яны пярэчаць канстытуцыі і істотным правом парляманту і дэпутатаў, правом, якія адначасна зьяўляюцца, абавязкамі іх—перад законам і перад выбарцамі іх насяленьнем краю.

Атрымаўшы такі адказ, праф. Шыманскі зараз-жа паехаў да прэзыдэнта, якому і заявіў аб сваей адмове ад місіі стварэньня ўраду.

П. Прэзыдэнт, прыняўшы „адстаўку“ п. Шыманскага, даручыў стварэньне ўраду паслу Яну Пілсудскаму, роднаму брату марш. Пілсудскага, які жыве стала ў Вільні.

#### Місія пасла Яна Пілсудскага.

Атрымаўшы даручэньне ад п. Прэзыдэнта стварыць урад, дэп. Ян Пілсудскі так сама... распачаў гутаркі і канфэрэнцыі з павадырамі соймавых клюбаў—„каб высьветліць настроі, пануючыя ў парляманьце“,.. А тым часам—канчаўся ўжо другі тыдзень урадавага крызісу і прыпыненьня працы законадаўчых палат—Сойму і Сэнату—у часе бюджэтнай сэсіі, якая мусіла быць закончана канечна да 31 сакавіка.

#### Паседжаньне Сойму.

Каб закончыць разгляд бюджэту да гэтага тэрміну, старшыня Сойму Дашыньскі вызначыў на 29 сакавіка паседжаньне Сойму, якое абмежылася толькі разглядам паправак да бюджэту, зробленых Сэнатам. І ў суботу гэтае паседжаньне адбылося без усялякіх „найвастрэйшых спосабаў барацьбы“ з боку клюбу „Б. Б.“, які заяўляў, што не дапусьціць да склікання Сойму ў часе ўрадавага крызісу.

Бюджэт быў прыняты Соймам у законным тэрміне—у суботу 29.III. І зараз-жа бюджэтная сэсія парляманту была зачынена дэкрэтам п. Прэзыдэнта.

#### Урад п. Славка.

Сьледам за роспускам Сойму на „адпачынак“ новай хуткасьцяй і абвешчанай адмовай дэп. Пілсудскага ад тварэньня габінэту—п. Прэзыдэнт даручыў гэтую місію самаму галоўнаму павадыру і старшыні клюбу „Б. Б.“, палкоўніку Валерыю Славку, які—з маланкавай хуткасьцяй—у той-жа дзень прадставіў на зацьверджаньне п. Прэзыдэнту гатовы габінэт...

У склад габінэту ўваходзяць—побач з самым палкоўнікам Славкам і марш. Пілсудскім—найбольш „няпрыемныя“ для апазыцыйнага Сойму міністры, як: п. Прыстар, з прычыны якога й настаў урадавы крызіс, ды—п. Цар, які яшчэ так нядаўна змушаны быў падацца ў адстаўку, з прычыны выражанага яму Соймам недаверра. Рэшта міністраў—тыя самыя, што былі ў габінэце п. Бартэля, апрача толькі самога п. Бартэля.

З гэтага можна судзіць аб адносінах, якія мусяць запанаваць паміж урадам і Соймам.

## Заграніцай.

### Нямеччына і радавая ўлада.

Ад канца вайны Нямеччына ў сваей замежнай палітыцы ставіла стаўку на дапамогу з боку радавага ўраду... Аднак, у меру таго, як Нямеччына пачынае мірным спосабам уладжываць свае адносіны з дзяржавамі, з якімі ваявала, робячы цэлы сьцяг трактатаў, умоваў, паразуменьняў з былымі сваімі ворагамі,—усё выразьней і вастрэй зьяўляецца незаінтэрэсаванасьць нямецкае палітыкі ў „падтрыманьні“ з боку СССР...

Побач з тым тон нямецкага ўраду і нямецкай прэсы адносна да радавай улады робіцца ўсё больш жорсткім. Нядаўна ў Нямеччыне зроблены цэлы рад афіцыяльных і паўафіцыяльных заяваў аб неабходнасьці грунтоўнага перагляду гандлёвых і палітычных трактатаў з СССР, якія не даюць Нямеччыне спадзяваных карысьцяў. Высунута навет трэбаваньне, каб ізноў уставіць у адноўлены ў 1925 г. Рапальскі Трактат выкінены з яго пункт, які быў у Трактаце 1922 г.,—аб абавязку з боку радавага ўраду стрымацца ад усялякай камуністычнай агітацыі і прапаганды ў Нямеччыне...

А вось, толькі што орган нямецкіх камуністаў „Вэльт ам Абэнд“ зьмяшчае сэнсацыйныя рэвэляцыі аб тым, быццам цэнтрам проці радавага паходу, распачатага „буржуазна-каталіцкім інтэрнацыяналам“ — на чале з Рымскім Папам, робіцца Бэрлін... — Канфэрэнцыя, кіраўнікамі якой зьяўляюцца павадыры ўплывовай нямецкай партыі „каталіцкага цэнтру“ з учасьцем мюнхенскага кардынала,—пастанавіла зьбіраць фонд на барацьбу з радавай уладай. Грошы быццам мае даць нямецкая і сусьветная буйная буржуазія — на чале з ведамым нафтовым каралём Дэтэрлінгам, далей Ватыкан (урад Папы) і навет нямецкі ўрад—з дыспазыйных фондаў мін. замежных спраў (?).

У гэты міжнародавы проці-радавы саюз мае быць уцягнена і Польшча (?), без якой акцыя гэтая ня можа мець пасьпеху. Галоўнай мэтай пакуль што зьяўляецца зьбіраньне чым вялікшай сумы грошаў.

Камуністычная газэта, падаўшы ўсе гэтыя „рэвэляцыі“, пытаецца ў нямецкага ўраду, ці ведае ён аб усім гэтым. Калі гэта ведае, дык—як ён глядзіць на такую акцыю, ськіраваную проці дзяржавы, з якой Нямеччына знаходзіцца ў прыязным саюзе?...

Але—ў тым вось і справа, што гэты „прыязны саюз“ неяк пачынае зрывацца...

### Зьмена ўраду у Нямеччыне. Паварот направа.

27 сакавіка габінэт Мюлера падаўся ў адстаўку. Прэз. Гіндэнбург прыняў адстаўку і назначыў канцлерам (прэмьерам) новага ўраду пасла Брюнінга — павадыра „каталіцкага цэнтру“; ці „хрысьціянскай дэмакратыі“.

Як ведама, б. прэмьер Мюлер належаў да сацыял-дэмакратыі, дык ужо з гэтага відаць, што новы ўрад па сваей сацыяльна-палітычнай ахварбоўцы мае пасунуцца ўправа. А гэта-тым больш, што, як можна цьвярдзіць напэўна, сацыял-дэмакраты, меўшыя ў былым габінэце аж 4 міністраў, а разам і прэмьера, цяпер пераходзяць у апазыцыю. Замест іх—да ўрадавай коаліцыі далучаюцца групы правыя, якія ў коаліцыю не ўваходзілі, як напрыклад група п. Шыле, адкалоўшаяся ад нацыяналістаў і інш.

Каб замаскаваць хаця крыху гэтае выразнае „направеньне“ ўраду, прэз. Гіндэнбург парадзіў прэмьеру Брюнінгу стварыць урад — „не на падставе парлямянцкай коаліцыі“, але — „з волнай рукі“, а тым самым — больш незалежны ад парляманту, але за тое — больш залежны ад самага Прэзыдэнта... За такі характар новага ўраду кажа і тое, што новы яго шэф, п. Брюнінг, — асабісты прыяцель прэз. Гіндэнбурга.

У апошні час вялася вострая барацьба паміж сацыял-дэмакратычнымі міністрамі і прадстаўнікамі так—званае „людовае партыі“, ці палітычна арганізаванай найбяднейшай буржуазіі, — за новы закон аб страхаваньні работнікаў на выпадак безрабоцьця. Было пастаўлена пытаньне: як збалянсаваць бюджэт, чым пакрыць у ім значны недахоп у ліку некалькіх сотняў мільёнаў, зьвязаны з асыгнаваньнем значнай сумы на дапамогу безработным, якіх у Нямеччыне цяпер набралася да паўтраці мільёнаў. Сацыялістычная частка габінэту прапанавала на пакрыцьцё недахопу ўвясьці новыя падаткі (на піва і інш.), але на гэты шлях не згаджаліся буйна-буржуазныя „людоўцы“, сярод якіх, асабліва ў Бавары, ёсьць шмат „піўных каралёў“.

Міністар фінансаў Мольдэнгаўэр, „людовец“, які заняў месца сацыял-дэмакрата Гільфэрдынга, заявіў, што гатовы згадзіцца на новыя падаткі, але толькі пад варункам грунтоўнай перабудовы ўсей падаткавай сыстэмы, а перадусім т. зв. „сацыяльнага законадаўства“, ці сацыяльнай аховы работніцкай клясы...

Атрымаўшы такі адказ ад свайго міністра, канцлер Мюлер заявіў, што ў такім разе ўвесь урад змушаны выйсьці ў адстаўку, бо ў яго ёне няма згоды адносна да галоўнага, неадкладнага пытаньня аб фінансавай рэформе, маючай зьліквідаваць дэфіцыт (недахоп) у бюджэце.

### Узнаўленьне Лёнданскай Канфэрэнцыі.

Праца марской канфэрэнцыі ў Лёндане ўзнавілася пасьля значнага перарыву, выкліканага сьцягам урадавых крызісаў у Францыі. Але Брыян, паехаўшы ізноў у Лёндан, не знайшоў там „зразуменьня для слушных дамаганьняў Францыі“, дык і вярнуўся ў Парыж, забраўшы з сабой усю сваю дэлегацыю. Такім чынам, канфэрэнцыя лічылася ўжо сарванай. „Узмоцнены Тардье“ побач з Брыянам заявілі ясна і выразна, што „бясьпечнасьць Францыі вымагае флёту ня менш, як 724.000 тоннаў“.. Дык прапазыцыі Англіі і Амэрыкі, „дазваляючых“ Францыі мець флёт у 400 з нечым тысячаў тон., Францыя прыняць ня можа.

Францыя магла-б зьменшыць гэтую лічбу флёту тады, калі-б Англія і Амэрыка загарантавалі ей яе бясьпечнасьць на Сяродземным моры. Але, як Амэрыка, таксама і Англія рашуча адмовіліся ад гэтых дадатковых гарантыяў, заявіўшы, што ў цэлым радзе трактатаў мір у сьвеце ўжо даволі „забясьпечаны“... Тады Брыян заявіў, што ў такім выпадку Францыі наагул няма чаго рабіць у Лёндане, — тым больш, што англійская прэса, а навет (і асабліва!) афіцыяльны орган урадавай работніцкай партыі страшэнна бэсьціць Францыю і яе ўрад,.. Брыян заявіў, што ён ня зрывае канфэрэнцыі, але проста—„пачакае ў Парыжу, пакуль Англія і Амэрыка ня выдумаюць якіх новых прапазыцыяў, больш адпаведных для Францыі“.

Тады быццам амэрыканскія і англійскія павадыры канфэрэнцыі, паскрабаўшы патыліцы, прыдумалі нешта, каб здаволіць Францыю. Амэрыка, якая за нішто ня хоча сама вязаць сябе якімі-небудзь „гарантыямі“ эўрапэйскага міру, прапануе, каб Англія пайшла на кампраміс з Францыяй і дала ей дадаткавую гарантыю яе бясьпечнасьці, паралізуючы небясьпеку нападу на Францыю з боку Італіі, якая ўсьцяж трэбуе для сябе роўнага флёту з Францыяй, — што робіць якраз вельмі няроўнымі марскія сілы Францыі і Італіі на Сяродземным моры. Таму быццам і Англія

мае згадзіцца на падпісаньне супольнага гарантыйнага трактату Францыі з Італіяй, да якога пасьля мелі-б далучыцца і ўсе іншыя сяродземнаморскія дзяржавы. Ці выйдзе што з гэтага пляну „Сяродземнаморскага Лёкарно“, які мае ўратаваць усю канфэрэнцыю, яшчэ няведама.

## Каротнія навіны.

У Бэрліне 27 сакавіка распачата праца міжнародавага сялянскага Кангрэсу, у якім прымаюць учасьце дэлегаты з Англіі, Францыі, Італіі, Польшчы, Чэха-Славакіі, Галяндыі, Даніі, Баўгарыі, Швэцыі, Норвэгіі, Ірляндыі і Бэльгіі. З боку СССР зьявіўся прадстаўнік толькі ў якасьці „наглядчыка“— бяз голасу. Кангрэс падзяліўся на сэкцыі: „лацінскую“ —для краёў „раманскай культуры“ (?), „паўночную“ і „балтыцкую“; апроч таго — на спэцыяльныя камісіі: для краёў Сярэдняй Эўропы і Балканаў.

Пасьля страшэнна бурных спрэчак, Палітычнае бюро Камуністычнае партыі СССР пастанавіла склікаць на 25 красавіка пленарную сэсію Цэнтр. Выкан. Камітэту Партыі. Тэмай дыскусыі мае быць амаль ня выключна новастворанае палажэньне, выкліканае „калгаснай“ палітыкай Сталіна і яе крахам. Але, каб паралізаваць небясьпеку, пагражаючую „камандуючай галоўцы“ партыі, а перад усім — самому Сталіну, а таксама, каб пастрашыць праціўнікаў апошняга, Цэнтральная Кантрольная Камісія Партыі, дзе сядзяць усе сталінаўскія падручныя, загадала новую „рэгістрацыю“ ўсіх сяброў Партыі. Рэгістрацыя пачнецца якраз 18 красавіка перад самым зьездам Ц. В. К. Дык ясна-ж, што „рэгістрацыя проста павыкідае з партыі, або паставіць „пад сумліў“ усіх „няпэўных“ ці „небясьпечных“ для „галоўкі“ сяброў партыі на час трываньня сэсіі Ц. К.

З Рыгі паведамляюць аб новым значным паніжэньні вартасьці радавага чырвонца, які за 10 апошніх дзён упаў да аднэй чацьвертай часьці сваей пачаткавай афіцыяльнай вартасьці. Гэта—вельмі благі знак і для ўраду Сталіна, які — раўналежна — страціў хіба-ж ня менш, як тры чэцьверці сваёй нядаўнай павагі і сілы ў краі. Біржавыя органы Зах. Эўропы пішуць, што гэты спадак выкліканы пагрозай гаспадарчай катастрофы ў СССР у выніку „калгаснай кампаніі“ Сталіна.

Хаця мы маем падставу думаць, што „прапажа“ белагвардзейскага генерала Кутепова з Парыжа і „вываз“ у СССР адбыўся з добрае волі Кутепова, усё-ж падаем тлумачэньне, апублікаванае афіцыяльна французскай паліцыяй. У „нападзе“ на ген. Кутепова і „вывазе“ яго прымалі ўчасьце 5 асобаў, з якіх адна, астаўшаяся ў Францыі, быццам-то зьявілася ў паліцыю і выдала ўсіх іншых. Галава расейскай ваеннай эміграцыі, як заяўляе французская паліцыя, быў вывезены ў Маскву, дзе і знаходзіцца цяпер — жывы ці мертвы—ў склепах вастрогу „Лубянкі“ („Чэка“). Усе гэтыя рэчы быццам ужо цалком сьцьверджаны сьледствам, на падставе якога францускі ўрад мае зрабіць рашучыя крокі ў Маскве. Француская прэса трэбуе разрыву дыплёматычных зносінаў з урадам СССР, агентамі якога зроблены такі нячуваны гвалт над асобай, якой Францыя дала „палітычны прытулак“, — дый на тэрыторыі Францыі.

У Баўгарыі раскрыта вялікая „камуністычная змова“. У аднэй толькі сталіцы арыштаваны 300 сяброў камун. партыі, дый спадзяюцца далейшых арыштаў.

Трэба толькі памятаць, што „камуністамі“ ў Баўгарыі, як зрэшта і шмат дзе інш. называюць—у ведамых мэтах — радыкальна сялянскія арганізацыі, маючыя мэтай барацьбу за свае сацыяльныя правы і інтарэсы, як наша былая Грамада.

Японскае марское міністэрства, іграючае амаль не галоўную ролю ў-ва ўсей замежнай палітыцы Японіі, рашуча высказалася **праціў усялякіх уступак Амэрыцы і Англіі на Лёнданскай канфэрэнцыі.** Дайшло да таго, што Японскі ўрад, які разумее неабходнасьць паразуменьня з гэтымі двума наймагутнейшымі дзяржавамі сьвету, заявіў, што выйдзе ў адстаўку, калі японскія адміралы будуць стаяць на сваім няўступлівым становішчы.

Вялізарную сэнсацыю выклікала ў Англіі палітычнае паразуменьне паміж Мак-Данальдам і Лейд-Джорджам, афіцыяльным павадыром лібэральнае партыі. Абодва лідэры (павадыры) заключылі — ад імя сваіх партыяў — умову: Мак-Данальд абяззаўся ўнесьці ў парлямант і правесьці ў жыцьцё рэформу выбарнага закону—ў духу, пажаданым для лібэралаў, за што апошнія гарантуюць работніцкаму ўраду, які, як ведама, ня мае уласнай большасьці, свэё падтрыманьне ў парляманьце. Гэта ўмова дае моцную „падмуроўку“ англійскаму ўраду, вызваляючы яго ад усялякай залежнасьці ад кансэрватараў.

Паразуменьне з лібэраламі выклікала толькі зразумелае абурэньне з боку левага крыла работніцкай партыі, якое да асобы Лейд-Джорджа адносіцца з асаблівым недаверрам.

За падпісаньне „пляну Юнга“ і „ліквідацыйнай умовы“ з Польшчай нямецкія нацыяналісты абвясьцілі бязьлітасную вайну самому „іхняму прэзыдэнту“ Гіндэнбургу, абвясьціўшы яго „здраднікам бацькаўшчыны“. На апошнім зьезьдзе баявой арганізацыі ням. нацыяналістаў „Штаньгэльму“ была навет прапазыцыя скінуць Гіндэнбурга з становішча „пачэснага старшыні“ арганізацыі. Прапазыцыя не прайшла, але паход проці „сацыялістычнага прэзыдэнта“, як называюць Гіндэнбурга ў правай прэсе, ня спыняецца. Асабліва стараюцца гумарыстычныя часопісі правага напрамку, якія страшэнна бэсьцяць і шэльмуюць гэтага „нацыянальнага гэроя“ і „прыяцеля імпэратара“.

# Хроніка.

× **Сьвяткаваньне 12-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі.** 25 сакавіка ў салі Беларускае Гімназіі ў Вільні адбылася ўрачыстая акадэмія, пасьвячоная акту абвяшчэньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі ў 1918 годзе ў Менску. Саля Гімназіі была перапоўнена. За прэзыдыяльным сталом занялі месцы сябры арганізацыйнага камітэту: грам. Вінцук Грышкевіч, д-р Мікалай Ільляшэвіч, Ігнат Мятла, Язэп Шнаркевіч. Ад імя арганізатараў адкрыў сход д-р Ільляшэвіч і ў кароткай прамове, вітаючы сабраных, адзначыў значэньне ўгодкаў, а пасьля запрапанаваў ушанаваць уставаньнем памяць усіх тых, што жыцьцё сваё аддалі ў ахвяры беларускай справе. Уся саля паднялася. Вучнёўскі аркестр адыграў пахаронны марш.

Абшырную прамову сказаў грам. Антон Луцкевіч, учасьнік акту 25 сакавіка 1918 году. Прамоўца нарысаваў гісторыю разьвіцьця беларускае палітычнае мысьлі ад часу утраты старое дзяржаўнае незалежнасьці і нарысаваў той шлях, які давёў беларускі народ да абвяшчэньня незалежнасьці адраджонае Беларусі. Аналізуючы тыя вынікі, якія даў акт 25 сакавіка 1918 г., прамоўца затрымаўся на наступных мамэнтах: вынясеньне беларускае справы на міжнародавую палітычную арэну (на Вэрсальскую міравую Канфэрэнцыю); зьмена палітыкі „чырвонае“ Масквы ў адносінах да беларускага пытаньня і, як уступка беларусам, — абвяшчэньне Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі ў складзе СССР; забясьпечаньне правоў беларускага народу міжнародавымі Трактатамі (што на дзеле, на жаль, не зьдзейсьняецца!); стварэньне агульна-нацыянальнага ідэалу, які сяго́ньня падтрымліваюць і тыя беларускія кірункі, якія ў 1918 годзе бароліся з створанай сацыялістамі Радай Рэспублікі ў Менску. Урэшце прамоўца праанілізаваў прычыны таго, што беларусы ня здолелі стварыць сваей незалежнай дзяржавы, і вызначыў шлях далейшае беларускае працы: падтрыманьне нацыянальнае сьведамасьці ў масах; арганізацыя сілаў сялян і работнікаў; падыйманьне культурнага роўня гэтых масаў; узгадоўваньне сьвядомае нацыянальна інтэлігенцыі з сялянка-работніцкай ідэалёгіяй і вернай незалежніцкай ідэі. Закончыў сваю прамову заклікам да працы й барацьбы за гэтыя лёзунгі ў штодзенным жыцьці.

Пасьля грам. Луцкевіча студэнт Ст. Станкевіч гаварыў аб пашырэньні сярод студэнскае моладзі незалежніцкае ідэалёгіі. Моладзь цьвёрда стаіць на незалежніцкім груньце і будзе ўсімі сіламі працаваць дзеля зьдзейсьненьня гэтага агульна-беларускага ідэалу.

Пасьля зачыненьня акадэміі пад гукі аркестру прысутныя прапялі гымн „Ад веку мы спалі і нас разбудзілі“.

× **Напад на беларускіх Студэнтаў.** Згодна з запаведзяй органу Сялянска-Работніцкага Пасольскага Клюбу (гл. № 3 „На варце“), у адказ на варожую да паноў паслоў гэтага клюбу маніфэстацыю, зробленую Беларускім Студэнскім Саюзам у Вільні, на памяшчэньне Саюзу ўвечары 24 сакавіка быў зроблены напад. Напад зроблены камсамольцамі (так інфармуюць нас студэнты), прычым у таўпе пераважалі камсамольцы жыдоўскае нацыянальнасьці.

Напад адбыўся ў часе рэфэрату, чытанага ў Саюзе ў сувязі з сьвятам Незалежнасьці, асабліва ненавісным сталінаўскім „моладцам“ (разгон Усебеларускага Кангрэсу 31 сьнежня 1917 году ў Менску, як ведама, адбыўся па загаду таго-ж Сталіна!). Грамадка абаламучанае правакатарамі моладзі, уварваўшыся ў памяшчэньне Саюзу, пачала кідаць у прысутных каменьне і бутэлькі з таўчоным шклом і серкавым ды карболявым квасамі. Другая група кідала каменьне і такія-ж бутэлькі з вуліцы праз вокны, разьбіваючы шыбы. Ня гледзячы на неспадзяванасьць нападу, студэнтам удалося адбіць нападаўшых і выкінуць іх з свайго памяшчэньня. У выніку нападу некаторыя студэнты былі паабліваны палючымі квасамі, адзін-жа аказаўся зраненым шклом у руку.

Ня гледзячы на тое, што напад адбываўся на людной вуліцы (Віленскай)—побач з Гродзкім Староствам — і трываў каля 15 мінут, паліцыя неяк дзіўна не сьпяшылася туды... Прыйшла яна толькі тады, як усё скончылася.

Мы ўжо адзначылі, што, зрываючы вывескі на пасольскім Клюбе і на Беларускім Каапэратыўным Банку, студэнская моладзь зрабіла блага. Але, як сьцьвярдзіла навет рэдакцыя пасольскага органу „На варце“, студэнты дзеялі пад уплывам пэражытага настрою, і гэты стан толькі й можа часткова апраўдаць памылковае выступленьне. За тое-ж зусім нельга апраўдаць тых, хто ладзіў напад на студэнтаў і прымаў у ім учасьце: тут не магло быць гутаркі аб нейкім водруху, бо ўсё было абдумана і развяжана халодна, а ўчасьнікі нападу — жыдоўская моладзь—пэўне-ж не маглі навет уніквуць у істоту і прычыны абурэньня беларускае моладзі на беларускіх-жа паслоў. Дык трэба з сумам сьцьвярдзіць, што Пасольскі Клюб, збанкрутаваўшы маральна, перайшоў ужо да кулачных спосабаў барацьбы з сваімі ідэйнымі праціўнікамі і дзеля гэтага карыстаецца навет чужымі рукамі. Відаць, ведае, што беларускіх рук на разьбіваньне галоў беларускім студэнтам ня знойдзе!

Цікаўны палітычны вынік нападу. Беларуская студэнская моладзь, якая заўсёды з поўнай пашанай адносілася да перакананьняў сваіх сяброў, — гэтак была абурана нападам, што пасьля заканчэньня перарванага рэфэрату, сабраныя студэнты пастанавілі выкінуць з свайго Саюзу ўсіх, хто спрыяе камуністам. Выключаны ў першую чаргу студэнты Ю. Саковіч, Г. Вялецкі і А. Вярбіцкі.

× **Прызнаньні Сялянска-Работніцкага Клюбу.** Мы ў свой час інфармавалі нашых чытачоў, што паслы з так-званага „Беларускага“ Сялянска-Работніцкага Пасольскага Клюбу пры галасаваньні аб крэдытах на беларускія культурныя патрэбы ў Сойме галасавалі проці асыгноўкі 200.000 зл. на будову гмаху беларускае гімназіі і бурсы ў Навагрудку, але падалі свае галасы за крэдыты 150 і 100 тысячаў зл. на белар. вучыцельскія курсы і белар. вучыцельскую сэмінарыю. Відаць, аднак, „начальства“ паноў паслоў крэпка „наківала“ ім за гэтае апошняе, бо ў № 3 афіцыяльнага органу Клюбу „На варце“ чытаем гэткую заяву Клюбу:

Галасуючы за гэтыя крэдыты, „Клюб зрабіў памылку... Клюб гэтую памылку без сумляваньня надалей паправіць“. — „Так, мы лічым шкоднымі вашыя школы — і іменна затым, што яны беларускія“.

Ясна-ж: на польскія школы народныя грошы аддаваць можна, хоць яны і „фашыстоўскія“, і клерыкальныя. Але беларускія, якія мелі-б дух сялянска-работніцкі, толькі непакорны Маскве, — гэта дык рэч шкодная!

Думаем, што сялянства беларускае, якое падавала дэклярацыі на ўрадавыя беларускія школы дзесяткамі тысячаў, глыбака разыходзіцца ў сваіх паглядах на гэта з панамі пасламі!..

× **Вёска таксама зразумела.** Паводле вестак якія прыйшлі ў рэдакцыю нашае газэты, у многіх вёсках Маладэчанскага і Валожынскага павету сяляне атрымаўся № 1 газэты „На варце“, масава яе палілі. Значыцца, і вёска ўжо дасканальна пазналася, хто ёсьць Дварчанін і яго кампанія, з якімі нашаму сялянству не падарозе!

× **Да выбараў у Лідзкім вокрузе.** Выдаваная ў польскай мове варшаўская газэта жыдоўскай буржуазіі „Nasz Przegląd“ у нумары з 25 лютага зазначае, што „На сьпіску № 18 Блёку меншасьцеў фігураваў адвакат з Вільні Чарніхаў, як трэйці, а калі-б са сьпіску № 18 у Лідзе або ў Луцку прайшло прынамся двух паслоў, тады ўвайшоў-бы ў Сойм з сьпіску гаспадарственага б. пасол Інсьлер“.

Той-жа „Nasz Przegląd“ у нумары з 26 лютага піша, што пры выбарах у Сойм у 1928 годзе блёк нацыянальных меншасьцяў (№ 18) дастаў у Лідзкім вокрузе толькі 11 тысячоў галасоў. З прычыны такой малой лічбы галасоў, дадзеных на блёк, орган жыдоўскай буржуазіі адзначае, што „беларуская партыя, каторая ўвайшла ў Блёк меншасьцяў, зарана няправільна дыскантавала свае ўплывы, вымусіўшы на жыдоўскім контрагеньце, каб здаволіўся трэйцім месцам у Лідзкім вокрузе. **Дык фактычнае палажэньне вымагае, каб другі беларускі кандыдат адмовіўся на карысьць адв. Чарніхава“.**

Як бачым, пасьпявае паважны канфлікт у блёку меншасьцяў, бо хадэкі й сельсаюзьнікі, якія ўвайшлі ў гэны блёк, з увагі на становішча беларускіх масаў хіба не адважацца аддаць другое месца кандыдату жыдоўскае буржуазіі, — тым балей, што хіба й яны не сумляваюцца, што барацьба з сьпіскам № 41 будзе цяжкая.

× **Агульны сход Беларускага Навуковага Т-ва** З прычыны таго, што вызначаны на 2 сакавіка с.г агульны гадавы сход Т-ва быў сарваны групай сяброў Ураду (Дварчанін і кампанія!), у нядзелю, 6 красавіка, ў 13 гадзіне адбудзецца ў памяшчэньні Музэю ім Ів. Луцкевіча паўторны сход з тым-жа парадкам дня. Згодна з статутам Т-ва, сход гэты будзе правамочны пры кожнай лічбе сяброў, і гэтым самым новы зрыў яго — немагчымы.

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Ня маючы іншага спосабу высказаць сваю падзяку, ветліва прашу зьмясьціць яе на страніцах Вашае паважанае часопісі.

20 лютага с.г. Апэляцыйны Суд у Варшаве цалком абнявініў мяне ў закідах палітычнага характару, за якія Акружны Суд у Вільні засудзіў быў мяне 28 лютага 1928 году на 6 гадоў вастрогу.

Выяўленьне маей нявіноўнасьці зьяўляецца вынікам перадусім выдатнае і да таго ж безынтэрэсоўнае абароны мяне п. п. адвакатамі Аўгеням Сьмяроўскім і Людвікам Гонігвілем, за што і высказываю ім на гэтым месцы гарачую, шчырую і сярдэчную падзяку, як людзям высокага розуму і сэрца.

Адначасна выказваю маю сардэчную ўдзячнасьць усім тым, хто, ня гледзячы на сваё становішча і свае заняткі, неаднакротна зьяўляліся дзеля мяне на суд, каб пасьведчыць аб праўдзе у маей справе, і ад пачатку працэсу нязьменна верылі ў маю нявіноўнасьць, сьцьверджаную канчатковым прысудам.

Прымеце, Паважаны Грамадзянін Рэдактар, словы майго высокага паважаньня.

**Антон Шапель, былы пасол.**

